першая кніга паэта

/75

# павел марцiновiч

# прадвесне



ПАВЕЛ МАРЦІНОВІЧ
НАРАДЗІЎСЯ Ў 1954 г. У МІНСКУ.
ПРАЦУЕ Ў РЭСПУБЛІКАНСКІМ
ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА.
ВЕРШЫ ЯГО ДРУКАВАЛІСЯ
Ў ЧАСОПІСАХ «МАЛАДОСЦЬ»,
«БЕЛАРУСЬ»,
У ГАЗЕТАХ
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»,
«ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»,
«ВЯЧЭРНІ МІНСК» І ІНШЫХ,
У ЗБОРНІКУ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ»,
У МАСКОЎСКІМ АЛЬМАНАХУ «РОДНИКИ».
ПАВЕЛ МАРЦІНОВІЧ —
УДЗЕЛЬНІК VI
УСЕСАЮЗНАЙ НАРАДЫ
МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ.

## ХАТЫНЬ

Вяртаюся ў мінулае Радзімы,
У спаленую ворагам Хатынь,
Дзе выбівае звон твае гадзіны
І ўсе гадзіны і хвіліны Тых...

На могілках забітых родных вёсак
Ляжыць зямля, прагорклая вайной...
Трагічны комін — абгарэлы посах
З абвугленай крывёй...
Куды ён павядзе гаспадара?!

* * *

Што было — як вада не сплыло,
А варочае памяць-турбіну.
Хто быў вінным, а хто быў нявінным,
Дзе прытулак, дзе лёс і жытло.

* * *

І мы пайшлі. І мы пайшлі далей,
Але ізноў у памяці ўзнялося:
Перад вачмі — гарэлы чорны лес,
Пакутны лес — апаленыя лёсы.

## СУСТРЭЧА

Спраку веку: парэчкі, вішні,
Спелых яблык лагодны шоргат.
Іх кабета складае ўвішна,
Бы нажытак якісьці ў горбу.

Мітусіцца крысо каптана,
Быццам рыжае лісце на доле.
...Кім яшчэ не была таптана
Яе вечная гэтая доля?

Даўні сябар кабецін — вецер
Чысціць пер'е галін з ахвотай.
...Хто не гнаў яе злою слотай
У разгубленае бязвер'е?

Беглі бежанскія сцяжыны,
І, ашчэрыўшы дзіка глюгі,
Птушкі вогненныя кружылі
І чарнелі ўваччу, як вугаль.

І на восеньскім сумным доле
Ніцма падала, быццам дрэва...
І здавалася, што ніколі
І ніхто яе не сагрэе.

...Мы прыехалі нечакана
І з'віліся неяк дзіўна
На дзяружцы каля паркана
Паміж гойнае садавіны.

І было незвычайна добра
Ў непарушным спакоі гэтым,
Удыхаючы свежы водар,
Напаўняючы грудзі ветрам,

І глядзець у бязмер блакіту,
Дзе стагоддзі плывуць, як хмары,
Як світанні і як пажары,
Словам, тысячы год пражытых...

* * *

У люстры вод дрыготка-мутным
Я ўбачыў даўнюю тугу.
І, нібыта ў натоўпе людным,
Яе разгледзець не магу.

У люстры вод, пакрытым плесняй,
Як забыццём глухім, цяжкім —
У люстры вод я ўбачыў песні,
Не праспяваныя нікім.

І на заходзе, ледзь улоўна,
Ды й не для позіркаў любых —
Як з пажыццёвага палону
Яны высвечвалі з глыбінь.

## ВОГНІШЧА

Да вогнішча ішлі кабеты моўчкі,
Глядзелі на агні яго крутыя...
І на зямлю з бярозавых лісточкаў
Спадалі росы — кроплі залатыя.

У вогнішчы, чырвоным, нібы рана,
Гарэлі хвілі, рэдкія ў жыцці...
Калі ляцелі іскры на паляны,
Хутчэй кабеты мусілі ісці...

Мільён гадоў гарэлі іх надзеі,
І цені мар знікалі, быццам іскры,
Яны насілі чорнае адзенне,
Іх скруха да зямлі схіляла нізка.

Перад вачмі — усё сыны-салдаты,
І мроіцца кабетам неспакойна,
Што згасне вечар — і да роднай хаты
Сыноў імчацца вогненныя коні.

І ў траўні, і ў кастрычніку, і ў снежні
Гарыць трывожна вогнішча-надзея,
То полымя ўздымаецца, як вежа,
То апускаецца і ў дыме ледзянее...

* * *

Вось-вось усклікнуўшы: «Гатова!» —
Кліента ляпнеш па плячы...
Не будзь бязлітасны, фатограф,
Да гэтых шрамаў і маршчын.

Ён гора вычарпаў да рэшты,
Адчуў на смак гаркоту зла...
Само жыццё хавае нешта
Ад зыркіх променяў святла.

* * *

Сасна пад ветрам застагнала.
Ці, можа, гэта мне здалося?
Няўжо людскіх пакут замала,
Што лес — галосіць?

Мо ў ёй засеў драбок метала,
Вайны далёкі адгалосак?
Не ведаю. Мне не здалося.
Сасна пад ветрам застагнала.

* * *

Узмахнулі сякеры, як толькі маглі,
А галіны трывожна і ўпарта раслі,
Хоць струменіўся сок, хоць чарнела
Рана белая цела.

Мо загінуць галіны і дрэва пасля,
А пакуль што жывіца сплывае з камля...
Бо і людзі жывуць ля магілаў людзей,
Не чакаючы слёз і балючых падзей.

## ПАЧАТАК

Чырвонай птушкай узлятае сцяг
Над лютасцю і прагнасцю спацелай.
І мільганулі спужаныя цені,
Як чорны пыл на ўзвіхраных званах.

* * *

Калеку йсці хутчэй не ўпросіш.
(Як стогнуць мыліцы цішком!..)
Але не дай цягнуцца, лёсе,
Вось так, за хуткаплынным днём,

Глядзець на свет з-за пыльных шыбаў...
А гэтаксама не дазволь
І пераскокваць, як на дыбах,
Праз вечны чалавечы боль.

* * *

Здаецца, што рэха дрымотных вякоў
У гэтым бяздонным блакіце патала...
У моры, у моры не знойдзеш слядоў,
Не ўбачыш сцяжынак, людзьмі пратаптаных.

Каго паміж хваль напаткае канец,
Не будуць праводзіць маркотныя людзі,
Над сэрцам яго не насыплюць капец...
Ён знікне — і попелу нават не будзе.

Прагорклага мора струменіцца пах,
І белыя чайкі лунаюць упарта...
І хвалі, і хвалі над тымі, хто паў,
Змяняюцца, як ганаровая варта.

## ВАЛУНЫ

Валуноў нехлямяжы статак
Мне сустрэўся на пуцявіне.
Быццам гурма заблудных згадак,
Заімшэлых, у павуцінні.

Свеціць сонца ці дождж ліецца,
Дождж ліецца ці сонца свеціць —
А яны тут ляжаць, здаецца,
Ад самога стварэння свету.

Хто іх клікаў сюды здалёку?
Для чаго, для якое мэты?
Адплываюць удаль аблокі,
Старасвецкія, як карэты.

Туманы развінаюць сця́гі
Без парады і без падказкі.
Валуны, валуны-бадзягі,
Не самохаць — з чужое ласкі.

* * *

Па сасне,
сіняватай у навальніцу,
Сцякае дождж, як бурштын,
На сівую туманную іглiцу,
На баровы гушчар круты,

Што закрыў зялёнаю смугою
Бляклыя журботныя прасекі...
Як усё, забытае адвеку
І схаванае пад строгай хвояй...

## НЕЎМІРУЧАСЦЬ

Быў знакаміты ён мастак.
Але мне штосьці замінае
Казаць: жыве ён вечна побач,
Ён не памёр, бо нам пакінуў
Свае не гаснучыя творы.

Здаецца, я магу абразіць
Таго, хто некалі на ложку
Балюча плакаў, як ад крыўды,
Бо страчваў большую каштоўнасць
За славу і за неўміручасць.

Слязой жыццё яго ўшаную.

* * *

Нібы забытае дзіва —
Яблыню доўга будзілі.

«Можа, я толькі прысніла,
Быццам спагады прасіла?»

Падалі яблыкі-лёсы
Мякка, нячутна, як слёзы.

* * *

На свеце ёсць дзівакі, якія і сёння «па-навуковаму» абгрунтоўваюць думку Пталамея пра тое, што Зямля плоская.

*З газет*

Ёсць дзівакі,
што і сёння сцвярджаюць зацята:
Рацыю меў Пталамей, а Галілей памыляўся,
Форма Зямлі анічым не нагадвае кулю,
Плоская, нібыта дошка, наша планета.

Можа, яна й плоская, можа, й такая,
Згодны я верыць
гэткім дзівацкім прароцтвам.
Можа, яна быццам той плыт у сусвеце,
Хвалям даруе размытыя крокі людскія?

* * *

Яшчэ лісты не адляцелі
З дрэў адзінотных да зямлі,
Што так яскрава пажаўцелі,
Нібыта зноўку расцвілі!

* * *

Няпраўда, што вулканы камянеюць,
Калі рака распаленае лавы
Змаўкае, як парваная струна...

Яны ізноў натхнёна крывяносяць,
Але цяпер сплывае незваротна
Не шумнае агністае бруенне —
А мора смутку, чыстае, як лёд.

## ВЕЧАРОВЫ ЛІСТАПАД

У квяцістых слуцкіх паясах
Неба вечаровае іскрыцца.
Гэта — як бруістая крыніца —
Льецца неадцвіўшая краса.

Над зямлёй зіхоткі лістапад,
Шалясцяць барвовыя нябёсы...
Гэта — сумнаю насмешкай лёсу —
Адцвітае нерасцвіўшы сад.

* * *

Нямая скарга, як кара сухая,
Сцякла дрыготкім ценем на траву...
Пясок пануры, шэры, як павук,
Яе аблапіў, і яна знікае...

* * *

І ў гэтай абыякавай цішы,
Дзе кожны камень вечнасці шукае,—
Ідуць, ідуць бяссонныя дажджы
Ды згубленымі словамі сцякаюць...

* * *

...Залацістай стрэшкай над смугою
Усплываюць месяцы і дні...
Так усё, што страчана табою,
Ўспыхвае, як зыркія агні.

* * *

— А дзе ж тое мора?
— Краскамі зарасло.
*З народнага*

I

Не заплач. Лепш засмейся на зло
Непрыяцелю альбо лёсу,—
Бо і мора краскамі зарасло,
Каб не бачылі людзі слёзаў.

II

Калі разам усё яно надышло:
Боль і змора, туга і сорам,—
Нават мора краскамі зарасло,
Каб схавацца ад воч з дакорам.

* * *

І вось не тая ўжо вярста,
З якой ты мусіў быць пачацца...
І тут не ў плаванне кранацца,
Я быў. Я плыў. Я прарастаў.

Тут усвядоміць будзь ласкаў
Сваё уласнае стаўленне
Да тых здагадак і ўяўленняў,
З якіх ты доўга вырастаў.

## ЗАЎТРА

I

Пайду ў свет вочы.
Лясы,
палі,
лугі.
І сэрца, як кропля расы
На кожнай травінцы.

II

Знайду зялёнае азерца,
Як шкельца,
Праз якое глядзеў малым
На сонца і на зямлю.
І з лёгкасцю дзіўнай
Скіну ў яго цяжар думак.

* * *

Залацістым шарыкам святочным
Пакаціўся ў пушчу год былы,
Дзе без новых казак ды былін
Сосны белым выціраюць вочы.

Што мінуўся год, куды пабег —
Не заўважыў я ў мігценні елак.
За акном у пухкім футры белым
Новы год стаіць, як чалавек.

Так, былі турботы і надзеі,
Што збылося, што нясу далей...
Паміж дзён, нібы паміж людзей,
Ёсць, на жаль, не толькі дабрадзеі.

Новы год. Хай будзе светлым ён.

* * *

Недзе там, у далячыні,
Ёсць і рэкі, і лугі,
Што калісь мяне лячылі
Ад маркоты і тугі.

Там духмяныя узгоркі,
Дзе суніц — усім наўздзіў.
Калі мне бывала горка,
Імі смутак саладзіў.

Недзе там, у далячыні,
Жаўрукоў карміў з рукі.
Там вышэй за аблачыны
Летуценняў ветракі.

МЫ
ШУКАЛІ
ЦЯБЕ,
КВЕТКА
СВЕТЛЫХ,
ЯК ТРАВЕНЬ,
НАДЗЕЙ...

---

## ТАЛКАВІСКА *

Вытапталі коні раз'ятрана
Талкавіска на полі грозным...
На якім не будзе аратага,
Дзе не будуць бялецца козы.

Поле, нібыта возера чорнае,
Уздрыгне пад канец змагання...
Забулькоча людскімі стогнамі,
Крык, як пена на вуснах, устане.

І пакоціцца поле чорнае,
У вачах жывога павісне...
Лёсы тысяч ляжаць пад стогнамі
Вытаптаныя, як талкавіска.

...Спуд для тых, хто жывым застаўся,
Толькі мара ды ясны шлях...
Дзе наш сябар, які змагаўся
Чорнай раці усёй на жах?

...Гэй, глядзіце! Жывы, здаецца...
Вось і той галаву прыўзняў...
Кроў, нябожа, з цябе ліецца,
Але будзеш жыць... Я сказаў!

...Сонца раніцы над зямлёй устала...
Па збалелых грудах ідуць
Пяць параненых ваяў...

---

* Талкавіска — месца, якое вытапталі коні ў час бітвы.

...Уздымаліся белыя сцены,
Будавалі пяцёра горад,
І скідалі за сцены гора,
Як раскрышанае каменне.

Адчынілі нарэшце браму:
Каб з бароў і гаёў густых,
Дзе прытулак шукалі людзі,
Каб са сховаў ішлі да іх.
...У пакутах гаілася рана...
Горад ёсць. І жыццё ў ім будзе.

...Апускаецца сонца нізка,
Засынае спакойна малеча...
Яны ж скачуць да талкавіска,
Да пакуты сваёй адвечнай...

Не прыносіць птушка упарта
На яго збажыны зярнятка...
Толькі часта пачуеш жарты,
Што на поле прышыта латка.

...Кожны горад наш — гэты горад.

## РОКАШ *

У замку старадаўнім і магутным,
    як родны край, не скораны нікім,
У вежы, што імшыстая, як строма,
    і гулкая, як рэха і жыццё,
Вакол каміна, дзе агню кінжалы,
    як бліскавіцы, ўспыхваюць лязамі,—
Стаяць паўстанцы.

Сцякае дым на чорныя абшары,
    на коней і на ўзлескі цішыні...
А тут віруе помста і нянавісць,
    зацятая, нястрымная, як боль,
А ў замку, дзе калісь схавалі продкі
    гарматы у маўклівых змрочных лёхах,
Чакае золку рокаш, нібы вязень.

...І з рокатам ужо імчаць паўстанцы
Па непакорнай ранішняй зямлі.

---

* Р о к а ш — паўстанне *(старабеларускае).*

## УСЯСЛАЎ

> ...Таму ў Полацку рана званы
> Пазванілі ў Сафеі святой
> Да завутрані,— ён жа праз сны
> Ужо ў Кіеве звон чуе той.
>
> *«Слова аб палку Ігаравым»*

Кіеўскі вязень моўчкі ўглядаўся ў світанне,
Краты крутыя кранае пяшчотны прамень...
Гэты ручнік полацкі дужы вятрыска
Звечара нёс на далонях-аблоках сваіх.

Вышыты ён васількамі блакітнымі неба,
З Полацка аж і расінкі на ім зіхацяць.
Што, калі меч загарнулі ў тканіну рупліва,
Так, што адразу не ўбачыць яго аніяк?!

Вузкія краты... Пашліце дружыну на помач!
Хай Ізяслаў на мурах уздрыгне, як агонь!
...І заскрыпелі праклятае вязніцы дзверы.
Гэта — паўстанне. І ён — ужо кіеўскі князь!

## КАЛІНОЎСКІ

...А каты надзелі на шыю пятлю,
І жудасна стала навокал.
А ён стаяў цвёрда: «Радзіму люблю»,—
Шаптаў перад згубаю сокал.

І словы героя пачула зямля
Ды ціха яму адказала:
— Цябе не забуду ніколі і я,
Бо слава твая маёй стала.

1864

Узведзены курок і спынен крок
Па вольнаму зялёнаму абшару,
Дзе доўга коціцца цень залатога шара,
Як кола лёсу... Ўзведзены курок.

Узведзены на чалавечы крок...
Як адагнецца пругкая травінка,
Уздрыгне руля між усіх дарог
Адзінаю крываваю іскрынкай.

Застыў маўкліва і спакойна вой,
Апошні вой вялікага паўстання...
Каціўся над ягонай галавой
Трывожны шар — ці захада? ці рання?

...Сплывалі, як чырвоныя агні,
За бор сляды крыві...

* * *

Камяні застываюць, як слёзы стагоддзяў,
Пазіраюць са смуткам вачыма байніц.
Адвячоркам шчымлівым на шызым заходзе
Камяням, як і сэрцу, таксама баліць.

У глыбокія лёхі схаваецца сонца,
У скляпенні Нясвіжаў сівых і Мíроў.
Толькі месяца блікі дрыжаць, як бяссонне,
На дрымотных павеках зубчастых муроў.

Росны ранак світальную стужку разрэжа,
І па свежых слядах ад касмічных віткоў
Праплыве незгасальная Белая Вежа,
Быццам айсберг у сіняй прасторы вякоў.

## ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

На галінах вятроў —
як ваверкі, прыціхлыя цені.
Да дубовых камлёў
ападае лісцё цішыні.
І ўжо рэха не рэхча
на крыллі сваім пажаўцелым
У халоднай, бліскучай,
як месяц лясны, вышыні.

І на ўзлеску, на выспе,
дзе хваляю выпаў расянік,
Дзе бярозы варушаць
у вусцішы вуснамі ледзь,
Б'ецца папараць-кветка
таямнічаю бруяй ля Янкі,
Нібы б'ецца гарачае сэрца
чароўных легенд.

...Мы стагоддзі трывожна жывём
на Івану Купалу,
Але зорка Купалля
над намі заўсёды зіхціць,
І дрыготкаю знічкай у цемры
яна не прапала,
А гавораць, што папараць
быццам не можа цвісці.

Мы стагоддзі ішлі
па завейным заснежаным полі,

Скрозь шалёныя крыкі,
праклёны, раз'ятраны енк.
Нас хацелі, як дрэва,
сякерай ссячы без патолі,
А герояў стагоддзі вялі
да скрываўленых сцен.

Надвячоркам у вырай ляцелі
за хмарамі гусі,
Дым балючы і едкі
трывожна над намі курэў.
І не ведалі мы:
можа, лепшых сыноў Беларусі
Павядуць раніцой
за любоў да яе на расстрэл...

Узнімаліся шаблі;
як гром, грукаталі гарматы,
Крык зямлі абрастаў
туманом пасівелай бяды.
...Вы шукалі наш лёс —
сваю кветку, каваль і араты,
Ты шукаў сваю кветку
і лёс наш, шкаляр малады.

У сталёвыя ночы
вы на конях імчаліся грозна
Ад бароў ураганам,
гартанным, як покліч мяча,
Да распаленых ніў
і жалобных, як думы, баразнаў,
Дзе жалейкаю месяц
каціўся на золку, крычаў.

Мая родная мова!
Святой Беларусі крыніца!

Ты бруішся і ў душах
паміж залатых берагоў,
І ў празрыстым палёце
ніколі табе не спыніцца,
Бо спрадвечна зямля
нараджае да Праўды любоў.

...Мы шукалі цябе,
Кветка светлых, як травень,
надзей,
Кветка-звон,
што звінела ў халодных
дрымучых раскатах,—
І ты кожным світаннем
у небе цвіла для людзей,
Паланянка вянкі ў азярыны
кідала з-за кратаў...

Мы шукалі цябе
і знаходзілі, кветка, цябе,
І ў калодзежы душаў
крылатым агнём апускалі,
Каб у небе і днём,
калі песня званоў загудзе,
Зоры праўды,
як людзі, паўсталі!

...На світанні ідзём
па шырокім азораным полі,
А пасля над краінай маёю
вясёлка ўстае,
І трымае ў руках Беларусь
нескарона і вольна,
Нескарона і горда
кветкі шчасця свае.

## РОДНАЯ ПЕСНЯ

*«Песнярам»*

Вы чуеце, як у блакітныя трубы неба
Граюць музыкі звонка і ганарліва,
І самі яны імкнуцца ўвысь па-арлінаму?

Вы чуеце, як па цымбалах крыніц вясёлых
Скачуць цуркі, вылітыя з прамення,
І жменямі сыплюць гукі на дол і каменне?

Вы чуеце, як зялёны гармонік гаю
Расцягвае вецер разгублена і адзінотна,
І лісце ляціць, як самотныя гэтыя ноты?

Вы чуеце, як гулкія горны бору
Гучаць спрадвечнай мужнасцю беларускай?
Вы адчуваеце, як напружаны кожны мускул.

Вы адчуваеце моц тых магутных карэнняў,
Якія прабіліся парасткам з сутарэнняў
Спрадвечнай любові да нашага роднага слова.

* * *

Таямніча і ціха
Змяняецца лесу аблічча,
Калі іскрай дрыготкай
Раптоўна згарыць далячынь...
Калі свет летуценны
Срабрыстаю цемрай абліты
І падкупленай вартай
Расчынена брама начы.

Дрэвы шэпчуць тады
Старадаўнія казкі-паданні,
Сны злятаюць з павек,
Як пужлівыя птушкі з галін.
І блукаюць па лесе
Не цені, не змрочныя здані,
А бруістыя мары
І смутак далёкіх часін.

* * *

Цягніка грукочуць колы,
Вось і Вільні камяніцы.
Нібы макавае поле,
Усплывае чарапіца.

Паглядзі з акна вагона,
Ледзь зацепліцца дасвецце,—
Вільня грэецца лагодна
У аранжавых суквеццях.

Варта зрокам дакрануцца
Да тых вуліц і будынкаў —
Рысы часу пазнаюцца,
Як на вечным фотаздымку.

Тут блукалі ранкам гулкім
І Скарына, і Купала...
Як на скроні, на завулкі
Сівізна вякоў апала.

І вясна, і друз магільны,
Перамогі і няўдачы...
Колькі колераў у Вільні
Наша сэрца можа ўбачыць!

## ЗУБРЫНЫЯ СЦЕЖКІ

Зубрыныя сцежкі
схаваны ў старым гушчары,
Заблытаны лісцем,
рупліва прыкрыты ігліцай.
Па іх асцярожна
і чуйна ступаюць зубры,
Каб не спатыкнуцца
і ў бездань часоў не зваліцца.

Да скону ім любы
бязмоўе сівых верасоў,
Рабое кустоўе
і пнёў заімшэлыя дзежкі.
І, можа, таму
у глухіх сутарэнняў лясоў
Пісьмёнамі інкаў
віюцца зубрыныя сцежкі.

Панурасць і вільгаць
у познім замглёным бары,
Мядзяныя кроплі
павіслі на вейках яліны...
Прыслухайся —
дзесьці павольна ступаюць зубры,
Нібы курганы —
іх цяжкія гарбатыя спіны.

* * *

Родным гукам — паклон.
Нас яны неаднойчы сагрэлі.
Нейкі добры настрой
Ёсць у радасным слове — арэлі.

Пругкім ветрам шумяць,
Жаўруковай гайдаюцца трэллю:
І займаецца ранак,
Святлісты, як блік акварэлі.

За паўсвета лятуць,
Як са срэбра адлітыя стрэлы...
Уздымаюць высока
Пад самае неба — арэлі!

* * *

Яны — на зорцы Яснай Цішыні,
Дзе ўжо няма будзённых ідэалаў,
Дзе вышыню высокае прыдбала,
Дзе ўладцы дабрачынныя — яны.

Але ідуць па вогнішчах зямных,
Бо ўспамінаюць зорныя вытокі...
Хто больш зямны, скажыце, быў за іх?
І на зямлі чые застылі крокі?

ХАЙ ПРАЛЬЕЦЦА
ПРАМЕНЬЧЫК
ЖЫЦЦЯ
НА СУХОЕ
ПАКУТНАЕ
ДРЭВА

* * *

Пасядзець каля вогнішча...
        Дзіўная з нашых уцех,—
Ані крыку, ні зыку —
        адзін невымоўны агеньчык.
Невымоўны, як цень вечаровы,
        як ранішні снег,
Што павольна плыве і,
        як зоркі, спадае на плечы.

Што змушае схіляцца над ім
        да світальнай зары,
Быццам прагнем угледзець
        у цемры, у ночы кагосьці?
Думкі? Думкі мінаюць агонь,
        як лясныя звяры,
Адыходзяць, нібы
        варажбіткі-цыганкі, са злосцю.

Хай лунае праменістых іскраў
        абуджаны рой!
Бо душа чалавека —
        яшчэ не маўклівае ляда,
Калі пошум галля
        і агеньчык у цемры начной
Захавалі над ёй
        цудадзейную сілу і ўладу!

* * *

Хутка мінае дзень,
Быццам усплёск крыніцы.
...Нібы сырыя крыцы —
Зліткі нашых надзей.

Людзі сённяшнім днём
Выпальваюць, як агнём,
Жаданае толькі ўчора,—
Быццам бяжыць надвячорак
Неўтаймаваным канём.

* * *

У цёплага ветра
Пазычыць пяшчоты хацеў бы.

Зацятасці гнеўнай
Хацеў бы прыдбаць у віхора,
Каб здзьмухваць пагардна
Сваю маладушнасць і слабасць.

У ветра-бадзягі,
Які то смяецца, то плача,
То кідае раптам усё і ўцякае кудысьці,—
Нічога не ўзяў бы.
Аддаў бы яму свае думкі.

* * *

Суніцы набрынялі сонцам,
Як сакавіцкія снягі.
Хваёвы дух — смяюцца сосны
З сумненняў даўніх і тугі.

Як лодкі, доўгія галіны
Гайдаюць цені на кары,
Сукі крывыя — якары
Схаваліся ў кусты маліны.

Няўжо спакой — лясны міраж —
Давер у нас і ў вас пазычыў?
Агеньчык буры ці мураш
Шчаку зялёную казыча?

...Чаму цяпер, не ў лесе тым,
Я думаю нібы пра дзіва:
Незадаволенасць будзілі
Лагоднасць і зялёны дым?

* * *

У віры крыклівых вуліц
Кожны раз,
як дзіва з дзіў,
Раптам спыніць і расчуліць
Нейкіх птушачак «ціў-ціў».

Цёплым подыхам праталін
Спадзяванні адамкне...
Можа, я сентыментальны,
І здаецца гэта мне?

Можа, сам сябе запэўніў,
Што сумненне адплыло?
Можа, я сябе упэўніў,
Што вяртаецца цяпло?

* * *

Можна быць і жорсткім, і змрочным,
І стаяць, бы помнік уночы,
І сачыць з халоднай усмешкай
За пакрытай жарствою сцежкай,
Па якой, можа, нехта пойдзе,
І яго ўжо ніхто не знойдзе...
Але ў момант апошні крыкнуць:
«Не ідзі!» — і ў тумане знікнуць.

## ЛЕНІН І МУЗЫКА

У музыцы заспакаенне
Ён не адно шукаў, канечне.
Ён быў упэўненым, як вечнасць,
Якая стала словам: Ленін.

І быў імклівым ён, як праўда,
Якая прагне вызвалення...
У ёй было яго карэнне,
Яго акрыленасць і прага.

...Гучала музыка прачула
І гаманліва, запаветна...
Ён слухаў музыку — а чуў ён
Сімфонію жыцця і свету.

* * *

Рака... Рака маіх спакойных думак,
Рака маіх маўклівых адпачынкаў,
Рака майго малінавага лета...
Так лёгка льецца, бы няма і ветра,
Крыштальная рака...
А зараз вось — дажджынка.

* * *

«Ох, фанабэрысты які ўрадзіўся...»
Хто гэтаму упершыню здзівіўся?
Ці той, каго пакрыўдзіў ты калісь
Яшчэ ў маленстве кпінаю калючай?
Ці можа сам, адчуўшы, што баліць
Чужое часам гэтак жа балюча...

* * *

Як у эфір, выходжу ў бор,
Дзе чуйнасць гэтаксама трэба.
Каб век былі пасля з табой
Чабор і верасова срэбра.

Каб круглы год грыбніцы сніў,
А ўвосень, як наяве, бачыў
Спакой маўклівае сасны,
Агонь асінавы гарачы.

Каб суцяшалі цябе век
І зеляніна, і сінеча.
Каб быў замоўлен чалавек
Ад той драпежнае пустэчы.

* * *

— Аддам за паслугу табе —
паўкаралеўства!
О казка,
З ахвотай вандрую па сцежках тваіх.
Ты ўмееш аддзячыць за смеласць,
за шчырасць,
за веру;
Для тых, хто прытулку не мае,—
Будуеш палацы;
Для тых, хто ўцякае,—
Спыняеш імклівыя рэкі;
Хто прагне цяпла —
Вугалькі пакідаеш у прыску;
Хто крошкаю трызніць —
Даеш яму паўкаралеўства.

* * *

Песня мацнее —
Так наліваецца яблык
Сокам бурштынным, празрыстым,
Як травеньскі дождж.
Песня мацнее —
І хутка сагрэе азяблых,
Быццам агністай чупрынай
Уздымецца лоўж.

Песня мацнее —
на радасць,
на шчасце,
на слёзы,
Песня мацнее —
Так голле трывожна гудзе.
Не ад бяды бліскавічнае,
Не ад пагрозы —
Ад прадчування,
Ад вечнай трывогі надзей.

* * *

Разумеюць мяне
І ўспрымаюць на розны лад
Груд з сівым палыном
І глыбокі сцішаны сад.

Запусцелы кар'ер,
Дзе суніца спрадвек расла,
Стоязыкае дрэва,
Дзе плюшчыць, як снег, раса.

Разумеюць, але
Навошта ім што казаць?
Я даверан сабе
Магчымасцю адчуваць.

* * *

Люблю блукаць па шчырым бары,
Мінаючы верасовымі сцежкамі
Сосны. Хмары.

Мне лёгка там, пэўна, не толькі таму,
Што ціша ўрастае ў дол, як сасна,
А паветра блішчыць блакітнымі пражылкамі,
І, пэўна, не таму, што адзінота —
Кветка, якая адкрывае зіхоткія скарбы.

Мне хораша мроіць, нібыта паміж дрэў
Ты ні з чым не знітаваны,
І гэта ўяўляецца прывабным дзівам.

* * *

Спачатку па экране йшла адна
Вясёлая, як лета, афрыканка.
Нібыта рэчкі горнай быстрыня,
Жбан несла па асветленым экране.

На галаве, як капялюш, той жбан,
А рукі па баках трымае вольна.
Спрадвечны звычай, а здаецца, доля
Кайданы зашпурнула ў акіян.

Другая йдзе са жменяю бамбуку.
На твары зноў усмешка, цеплыня,
А на зыходзе залатога дня
Яна сашчэпіць стомленыя рукі
І будзе ў школе слухаць «аз» ды «букі».
А першы аз:
— Ніхто
не скорыць
нас.

* * *

Я схапіўся за дождж,
Нібы за арэлі,
І трымаўся рукою
За гірлянду адну жыватворную.

І, як на парашуце,
Апусціўся я з ёю на дол.
Хай пральецца праменьчык жыцця
На сухое пакутнае дрэва.

* * *

Будзе раніца, будзе світанак,
Будуць зноў залаціцца стагі.
Будзе соснаў гарэзлівы танец,
Будзе радасць пазбытай тугі.

Будзе раніца, будзе дасвецце,
Аб усім празвіняць капяжы...
Нават тое, што страціў на свеце,
Знойдзеш ты у закутках душы.

## РАБОЧЫЯ СЦЭНЫ

І мы не сыходзім бясследна, як цені,
І мы не знікаем у бляску афіш...
Бо кожны сезон мы, рабочыя сцэны,
Са сцэнай сваёй — неразлучны спарыш.

Нам з ёю адной суцяшэнне знаходзіць,
І з ёю глытаць пілавінне няўдач...
Мы разам з акцёрам на сцэну выходзім,
Хоць нас заўважае не кожны глядач.

Мы разам з акцёрам развучваем ролю,
Запальваем промень і бляск перуна...
І служыць нам сцэна адзіным паролем —
Наш дом і дашчаная наша труна.

Калі адзінота пачне дакараць нас
І выплыве ночы ламаны абрыс...
Мы рэшткі дастанем старых дэкарацый
І свет мы сыграем яшчэ раз на «біс».

* * *

Ручаёк —
        празрысты
                і зеленалісты...
Белая дрыжыць смуга
Над вадою ясна-серабрыстай.

А па ёй,
        як жоўтая хусцінка,
Жменя вырваных гарлачыкаў плыве.
Так далёка...
                Зараз — як крапінка.

І смуга.
Бы ля вачэй дрыжыць
Лёгкая блакітная самотнасць,
Без якой —
                не марыць і не жыць.

* * *

Вячэрняя музыка
стукае ў браму душы.
Аднекуль з глыбіняў
чуцён яе голас дрыготкі...
Упусціш —
адчыніцца свет ад мяжы да мяжы,
Разгорнецца неба
ад нейкай пяшчотнае ноткі.

Калі ледзянее
трывогі маўклівы акоп
І словам у сэрцы
становіцца цяжка і мулка,—
Здаецца, што дзесьці
блукае не ўзяты акорд,
Што дзесьці
бяздомныя гукі шукаюць прытулку.

* * *

Бор душы гаманлівай, людской.
Неспакой не здымае рукой,
Хоць ты крычма крычы: неспакой,
Неспакой,
Неспакой,
Неспакой.
...Свет вялікі на помач гукні,
У прасцягі нямой вышыні,
Быццам вежаў упартых цагліны,
Успываюць камлі, вершаліны...

* * *

Пакуль абуджваць розум чалавечы —
Нялёгкі непазбыты амбарас,
Багата трэба вытрымкі для нас
Пад парасонам мірнае сінечы.

Мы здольныя любое перажыць
І маем век нагоды для нягодаў.
Так і былінка ціхая дрыжыць
І ў непагадзь, і самаю пагодай.

* * *

Па ўзвышшы сонечным зо̄ягае,
Па блакітнай золкае вадзе,
Па камлях ружовашчокіх яблынь
Дзень.
Дзень
Плыве вакол зялёнай стромы,
Што застыла птушкаю крылатай,
Уваходзіць, як нязломны латнік,
У глыбіні срэбранага дома.
Вусціш апаноўвае надстром'е,
І сышліся хмары, як надброўе...
Усміхніся, усміхніся, вечар,
Што такое ледзяная вечнасць?

## ПАСЛЯ СВЯТ

Будзённы снег пакрыў двары.
І, як пабітыя бутэлькі,
Нясуць на сметнік жыхары
Свае смарагдавыя елкі.

Яны для нас цвілі зімой,
Краёў паўночных кіпарысы,
Дзіцячых сноў, дзіцячых мрой
Пазаўчарашнія царыцы.

Як ім хацелася знайсці
Жывых людзей жывую ласку,
Як ім хацелася прыйсці
І цэлы год напоўніць бляскам!

* * *

Каток, заліты свежым лёдам,—
Нібы гладыш, наліты мёдам.

Хто самы спрытны, самы шпаркі,
Адчуй, што ты на свеце ёсць!
Ад сонца з лёдам, як ад чаркі,
Завейна кружыць весялосць.

Плысці, плысці марозным танцам,
Пакуль святочны шал не сціх!..
...А той падлетак у вушанцы
Як бы схаваўся ад усіх.

Ступае дрогка і няпэўна,
Зацішны выбраўшы куток.
Упершыню ў жыцці, напэўна,
Прыйшоў ён сёння на каток.

І не адзін мінецца снежань,
Пакуль навучыцца дзіця
Прымаць з удзячнасцю бязмежнай
Дарункі сціплыя быцця.

* * *

На світанні між цёмных яблынь
Вецер сумны прайшоўся нясмела...
Цішыня чалавекам сталым
На траву адпачыць прысела.

Але раптам калючым спевам
Сад спакойны падняў трывожна
Вартаўнік, залацісты певень,
I замоўк асцярожна.

Узнялося імкліва сонца,
Быццам певень падкінуў яблык.
У блакітнай світальнай гронцы
Зіхаціць залаты караблік.

## ДОЖДЖ

Блакітнай сцяжынай нябёс
Аблок, быццам яблык, скаціўся,
Упаў на сасну і разбіўся,
І спелыя пырскі растрос.

Бруіўся крынічкай рахманай
У кубку зялёным зямлі...
І неба — як сонечны млын,
І дзень — нібы яблык румяны.

4 Зак. 2343

* * *

За рэчкай вёска, нібы з воску.
Бурштынна-прамяністы захад
Акрыў карункамі раку,
А на другім блішчыць баку
Лясная казачная птаха.

І ловіць дзень сунічным ротам
Усплёскі крылля птахі той,
Што хвалі па рацэ гартае
І, быццам ледзяная, тае,
Абняўшыся з вадой...

## МАРА

...І ідзе па блакіце яна,
Па вадзе, перавітай да дна
Зіхатлівым карункам праменняў...
І гарачы пад сонцам гарлачык
Ужо кропляй іскрыстаю скача.

* * *

Туман разышоўся густы,
І ўзніклі дамы самавітыя.
Хай хмары плылі, як лісты,
Суроваю ніткай дажджу
Прашытыя.

Святлела навокал, нібы
На неба праменне выплёсквала.
Я прыкрыя крыўды забыў,
Мяне і тугу раздзяліў
Бар'ер раўчуковага лёскату.

* * *

У руках — галінка і сцізорык.
Быццам цень, пралажу праз галлё.
Шалясцяць, нібы ляшчыннік, зоры,
Нечы голас чуецца здалёк.

І агонь на лугавіску свеціцца,
Саграе сваім дыханнем бор...
Ў кучаравую кураву вецер
Заплятае блікі сініх зор.

## ГАРЭХАВАЕ РЭХА

На беразе адным —
ляшчыннік светлалісты,
На беразе другім —
сасоннічак смалісты.
Злучыла берагі
Гарэзлівае рэха —
Бы гэта вецер кінуў
У сосны па гарэху.

## ПРАДВЕСНЕ

...Смех, гарэзны, празрысты смех
Прабіваецца скрозь ігліцу.
Чырвань лісця блішчыць праз снег,
Нібы чэрвеньскія суніцы.

Але ж гэта — не сакавік,
Хоць зваліўся ў сумёт снегавік,
Мабыць, гэта — вавёрчын крык
Па сцяжынках прабег, як міг.

Не высочвае сакавік
Дарагое звярынае футра.
Расхрыстаны сівер-снегавік
Пазяхае мутна...

## ВЕЧАР

На сцежку дня ўглядаецца з аблокаў,
Бурштынным промнем вуліцы зашкліў.
І не чуваць таму ягоных крокаў,
Што ён між днём і ноччу вечны клін.

На хмарах заўсміхаецца пагодна,
Ледзь сціхнуць летуценныя вятры —
Бы апельсіны, кідае падоўгу
У цемру залатыя ліхтары.

* * *

Дыхаць ноччу — адна любата,
Ноч не гасіць мацейчыных вогнішч.
Там, дзе росы пасля рабацяць,
Светлякі высыпаюць са сховішч.

Сузіраючы роўнядзь вакол,
Лес, прасекі, затканыя чорным,
Дом, праглынуты, як надвячорак,
Бурштыноваю пашчай акон,

Мы не дзівімся быццам ані,
Але вечна начамі пагоднымі
З васількамі цудоўнымі зорнымі
Каласяцца юначыя сны.

## ПОЎДЗЕНЬ

І мяккі ліпеньскі блакіт
Карону-воблака нясе
Сасне духмянай песенна-зялёнай...
Гарачынёй распаленай сталёвай
Б'е дзень па гэтай ранішняй красе.

* * *

Месяц — быццам кавал кавуна,
Зоркі зыркія — як кроплі яго соку —
Хваля ночы зырыць па блакіце.

Зіхацяць яны ў вачах і ў рэчцы,
Зіхацяць на лісці і на руні,
На вятрах і на дажджах іскрыстых,
На люстранай гладзі цішыні.

Я па вольным па гулкім бары,
Дзе цымбаламі рэха гучыць,
Між пралесак ішоў аж да зорак.

* * *

Імшарынай ліпнёваю іду.
Ад багуну ажно займае дух.
П'яніць багун,
Багун, як трунак, моцны.
П'яніць трава,
П'яніць агонь брусніц.
Блакіт густы,
Такі, што не прысніць,
І церпкі пах саспелых промняў сонца.

* * *

У ціхім завулку — прытулак рабін,
Празрыстага верасня чыстыя скарбы...
Як хораша думаць, што ты не адзін,
Як цешаць і грэюць агністыя фарбы.

Журботна-прыветныя ўсмешкі рабін,
Працягнуты мне пачастунак чырвоны...
Стаю і не ведаю, што мне рабіць,
Багацце такое не змесцяць далоні.

Удзячнасці словы я раптам згубіў,
Ці ж ведаў,
Што выпадзе з гэткім сустрэцца...
Куды мне пакласці дарункі рабін?
Хіба толькі — ў сэрца?

* * *

За горадам — самотны шлях,
Пакрыты восенню прысады...
Плыве бяроз замшэлы пах
І нейкай горычы асадак.

Плыве бязважкі супакой,
Лісцё губляецца ў паветры...
Здаецца хвіляю такой,
Што і зямлі пусцеюць нетры.

І пад бярозамі ў цішы,
Свой скарб збіраючы употай,
Драбінкі жвіру-мурашы
Рыжэюць позняй пазалотай.

* * *

Прайшоў
увесну
сіні дождж.
Прайшоў
улетку
сіні град.
Узімку
сіні снег
упаў
На ціхую паляну.

Вось возера блакітнае
З блакітным беражком
І з лодкаю блакітнаю
Пад ветразем блакітным,
У ёй плыве,
у ёй дрыжыць
самотны промень сонца.

* * *

Маленькі каласок, як каралевіч,
Трымаў карону цяжкую зярнят.
І я падумаў: хлебных немаўлят
І прызначэннем акрыляе веліч.

* * *

Схіліўся я над ручайком:
Блакіт мне выпіць трэба.
Мо й сапраўды тут паяском
Упаў
кавалак
неба?

## ПОЎНЯ

Над сівізною і маркотай ночы,
Над студняю глыбіннае цішы
Гайдалася вясёлаю шпакоўняй
Ва ўсмешцы залацістай поўня.
Расплюшчвалі і зоры свае вочы
На крыллі хмар... Кружыць...

* * *

Ліп і ясеняў хістанне,
І хмурын пяшчотны лёд...
Восень, восень... час расстання,
Ты адзін на цэлы год.

Нейкі боль і нейкі смутак,
Нейкі сорам, нейкі гнеў...
Брук ссутулены, сагнуты,
Як ад холаду, ссінеў.

І над ім густым хістаннем
Ясень хіліцца набок.
Аддае паклон астатні
Ці выказвае папрок?

У знямозе сцісне рукі,
Упадзе, як ад жуды,
Пакідаючы на бруку
Палымяныя сляды.

* * *

Скалелі тэлеграфныя слупы.
Прыслухайся, як дрот рыпіць здранцвелы.
А вокал — бель, што можа асляпіць,
А вокал — ціша стоеных мяцеліц.

* * *

Плывуць бліскучыя сняжынкі
Па сінім ледзяным акне.
Адна другую парушынка
Збівае ў мармуравы снег.

Мае прыгожыя дурнічкі!
Куды спяшаліся з нябёс?
Вы не растапі, нібы знічкі,
Акрэсліўшы свой горкі лёс.

Вы анямелі ад падзення,
Ад непазбежнасці трывог
І безуважна, безнадзейна
Скаціліся да нечых ног.

* * *

Дух абуджэння ўрэшце перамог!
Пакінуўшы дакучлівае неба,
Ружовыя сцяблiны прамянёў
З няўтольнай прагай цягнуцца да глебы.

* * *

Расчараванне, як сухі лісток,
Што ты знайшоў у кнізе выпадкова.
А можа, тая звонкая падкова
Была, як недавучаны урок?

І, нібыта без рэчышча выток,
Было душой успоенае слова?

## ЗАПРАШЭННЕ

Асенні дождж,
нібыта госць,
Стаіць каля парога.
Калі ў цябе патрэба ёсць —
Заходзь,
заходзь, нябога.

Табе адкрыты мой парог
У будзень, як і ў свята.
Я ж бачу:
ты увесь прамок
Ад галавы да пятаў.

Хай след вільготны дзе-нідзе
Твае пакінуць ногі.
Для іншых мэтаў у людзей
Не зроблены парогі.

А калі гутарыць са мной
Няма ў цябе патрэбы,—
Заходзь —
і разам мы з табой
Хоць паўшчуваем неба,

Што доўга хмурыцца.
І ўсё ж
Узнять пара заслону.
Заходзь,
заходзь, асенні дождж,
Мой сябра нешматслоўны.

* * *

Узносяць хвалі светлы помнік,
І з вышыні спадаюць ніц.
Празрыстыя пісьмёны промняў
Хаваюць мноства таямніц.

Мільгае лодка ў далячыні
Плячом нястомнага плыўца.
Як нейкі смутак беспрычынны,
Не разгаданы да канца.

* * *

Іду адзін. І толькі белы снег,
Нібы ліхтар святлісты. І аднекуль —
Выскоквае, бяжыць сабачы брэх,
Так, як і ўчора, так, як і адвеку.

І ведаю: куды б я ні зайшоў,
Я не знайшоў бы жаднае уцехі
Без гэтых зацярушаных палёў,
Без гэтага прыглушанага брэху.

## ВОСЕНЬСКАЕ

Жоўтыя воблакі — лёгкага суму аблокі.
Твары закрылі жоўтымі хусткамі дрэвы.
Сумнай усмешкай трапечацца светлае лісце.
Цягнецца водар, ранішні водар далёкі...
Дык паглядзіце на гэтыя жоўтыя дрэвы,
Ці ж успамін іх саграваe надзеяй?
Што на галінах строгім чаканнем павісне?
Што ж вы тады гарэзнаю ўздрыгнулі песняй?
І замахалі жоўтымі хусткамі жвава?
Смешнае ў горыч перацвітае заўсёды.
Так, як было ўчора, даўно і заўсёды,
Мінскага парку белая бездань спужае...
...Ліст упадзе мокры, счарнелы, халодны,
Самі сабе вы другое прыдумалі лета,
Думайце ўзімку пра сваю новую песню.

ЗМЕСТ

**Што было — як вада не сплыло...**

**Мы шукалі цябе,**
**Кветка светлых, як травень, надзей...**



**Хай пральецца праменьчык жыцця**
**на сухое пакутнае дрэва**

На белорусском языке

Павел Аркадьевич Мартинович

КАНУН ВЕСНЫ

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак А. М. Кашкурэвіч. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар А. П. Берліна.

АТ 04197. Здадзена ў набор 22/V 1975 г. Падп. да друку 31/X 1975 г. Тыраж 3000 экз. Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 4,09. Ул.-выд. арк. 2,09. Зак. 2343. Цана 21 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

Марціновіч П.
М 29 Прадвесне. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1975.
112 с. з іл. (Першая кніга паэта).

Кніга «Прадвесне» складаецца з трох лірычных раздзелаў. Напружаныя духоўныя пошукі сучасніка і трывожнае рэха вайны, бруістыя крыніцы нацыянальнай гісторыі і дзівосны свет роднай прыроды — пра гэта вершы зборніка.

М $\frac{70403\text{-}193}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 64-76 Бел 2

